# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 42 (1234) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 21 КАСТРЫЧНІКА 1979 г. ЦАНА 1 зл.




*На полі ўвосень.* *Фота Я. Целушэцкага.*

## У НАС ВЫБАРЫ!

Беларускае грамадска-культурнае таварыства ўступіла ў вельмі важны этап сваёй дзейнасці.

30 верасня 1979 г. адбылося пасяджэнне Галоўнага праўлення БГКТ, прысвечанае абмеркаванню напрамкаў працы ў час **справаздачна-выбарнай кампаніі і падрыхтоўкі да IX з'езду нашай арганізацыі.** Пленум адкрыў старшыня ГП БГКТ **М. Самоцік.** Напомніў ён, што апошні, VIII з'езд БГКТ адбыўся 13 мая 1976 года. Згодна са Статутам нашага таварыства, кожныя чатыры гады абавязваюць у ім перавыбары ў гуртках і выбары новага Галоўнага праўлення на з'ездзе.

Затым М. Самоцік прадставіў асноўныя напрамкі дзейнасці нашага таварыства ад часу VIII з'езду, расказаў пра яе дасягненні і недахопы. Найбольшую ўвагу звярнуў на правядзенне справаздачна-выбарнай кампаніі, якая пачалася **1 кастрычніка г.г. і будзе праходзіць да 31 сакавіка 1980 г.** IX з'езд БГКТ плануецца правесці ў месяцах маі або чэрвені будучага года. Справаздачна-выбарныя працы ў нашай арганізацыі будуць адбывацца адначасова са справаздачна-выбарнай кампаніяй і правядзеннем VIII з'езду ПАРП, выбарамі ў Сейм і рады нарадовыя. Праблематыка гэтых агульнадзяржаўных кампаній будзе закранацца на справаздачна-выбарных сходах у гуртках БГКТ. Ва ўсім нашым таварыстве на час кампаніі трэба асабліва ажыўлена весці культурна-асветную дзейнасць, арганізоўваць канцэрты, сустрэчы і г.д. Усе члены нашага таварыства павінны паклапаціцца, каб справаздачна-выбарныя сходы ў гуртках прайшлі на высокім узроўні, каб прынялі ў іх удзел прадстаўнікі мясцовых уладаў, каб была цікавая мастацкая частка. Перад сходам неабходна задбаць, каб у БГКТ уступілі новыя члены і на сходзе ўрачыста ўручыць ім членскія білеты. Асноўную ўвагу ўдзельнікаў схода трэба звярнуць на ранейшую дзейнасць нашай арганізацыі (для гэтага ГП БГКТ ужо падрыхтавала спецыяльны матэрыял, ён будзе прачытаны на кожным сходзе) і на прыняццё рэальнага плана дзейнасці гуртка на наступныя гады. Асабліва неабходна дбаць пра актыўны ўдзел у розных конкурсах БГКТ, намагацца арганізаваць аматарскі тэатральны, танцавальны, музычны, харавы ці іншы калектыў, запрашаць на сустрэчы нашых аўтараў з „Белавежы", папулярызаваць выпісванне „Нівы", распаўсюджваць „Беларускі каляндар" і іншыя выдавецтвы ГП БГКТ, арганізаваць працу са старэйшымі людзьмі, займацца выяўленнем колішніх песень, танцаў і абрадаў і інсцэнізаваць іх. **На сход усе павінны прыйсці з аплочанымі членскімі складчынамі.** На сходзе кожныя 55 членаў нашай арганізацыі выбіраюць аднаго дэлегата на IX з'езд БГКТ, у сувязі з гэтым меншыя гурткі будуць выбіраць супольнага дэлегата. У снежні Прэзідыум ГП БГКТ ацэніць ход справаздачна-выбарнай кампаніі, а ў канцы сакавіка 1980 г. падсумуе яе правядзенне і прыме праект справаздачы і пастановаў на IX з'езд БГКТ.

Пасля даклада ў дыскусіі выступілі: **А. Баршчэўскі, Ю. Валкавыцкі, М. Гайдук, Я. Зенюк, С. Лукашук, Ф. Садоўскі, В. Швед.** Яны адобрылі даклад і неабходнасць ставіць усюды справу рэгулярнага ўплочвання членскіх складчын, выбіраць старшынямі гурткоў не „фігурантаў", а людзей, ахвочых працаваць, якія патрапяць натхніць і запаліць іншых да актыўнай дзейнасці, рабіць захады аб павышэнні мастацкага ўзроўню і ўзбагачэнні рэпертуару нашых харавых калектываў, арганізоўваць спецыяльныя семінары для пачынаючых аўтараў, праводзіць семінары для кіраўнікоў харавых і фальклорных калектываў і інш.

Пленум аднагалосна выбраў **Выдавецкую камісію пры ГП БГКТ** у складзе: **А. Баршчэўскі, Ю. Валкавыцкі, М. Гайдук, Я. Зенюк, В. Склубоўскі, Ю. Туронак і В. Швед.** Камісія будзе займацца ўсімі справамі па падрыхтоўцы і класіфікаванні да друку ўсіх выданняў ГП БГКТ.

Затым па прапанове старшыні М. Самоціка пленум вызначыў кожнаму члену Галоўнага праўлення раёны і гурткі, за якія ён адказны ў правядзенні справаздачна-выбарнай кампаніі.

У заключным слове М. Самоцік звярнуўся да ўсіх членаў нашай арганізацыі з заклікам актыўна ўключыцца ў падрыхтоўку і правядзенне справаздачна-выбарных сходаў. Гэтая праца павінна мабілізаваць і актывізаваць нашу арганізацыю. **(іс)**

## Новыя вершы

* ✲ *

*Я люблю людзей, якія вераць*
*У буслоў, што нам вясну прыносяць,*
*У ваду, што наталяе смагу,*
*У зярно, што каласіцца ў полі,*
*У любоў, што зоры запаляе,*
*У агонь, што грэе нашы сэрцы,*
*У дарогу, што вядзе да сонца,*
*У бяссмерце сваёй роднай мовы,*
*У легенды ўсіх народаў свету,*
*У сяброўства, што злучае рукі...*
*І асцерагаюся заўсёды,*
*Тых людзей, што ні ва што не вераць...*



## ТЫ ЗНАЕШ КРАЙ

*Ты знаеш край, зачараваны край,*
*Дзе ў салаўіных песнях — кожны гай*

*Дзе вабіць сэрца неабсяжнасць ніў,*
*Дзе зззяе хваль азёрных пераліў;*

*Дзе зоры над курганамі мігцяць,*
*Дзе ў далячынь вядуць шляхі жыцця;*

*Дзе ў кожнай хаце ты — жаданы, свой,*
*Дзе некалі мы стрэліся з табой;*

*Дзе вечна птушкі свае гнёзды ўюць,*
*Дзе нават і памершыя жывуць.*

**Максім Танк**

## КАВАЛЕР ОРДЭНА АДРАДЖЭННЯ ПОЛЬШЧЫ

У клопатах праляцелі гады маладосці. І проста не верыцца Пятру Ваўранюку, што яму ўжо 55 год, што набліжаецца старасць. Нібы ўчора было гэта, калі ён уступаў у рады Польскай рабочай партыі, калі амаль тры гады са зброяй у руках абараняў маладую народную ўладу (1945-47) і ў Элку вока ў вока сустрэўся з рэакцыйнымі бандамі. Вядома, пашанцавала, што ў тыя гады, служачы ў бяспецы і выязджаючы на сутычкі з узброеным унутраным ворагам, мінавала яго куля, што не быў ранены, што цэлы і здаровы вярнуўся ў родную вёску Кожына і зноў памагаў працаваць бацькам на гаспадарцы. Тады і закахаўся ў Ніну, дзяўчыну з сваёй вёскі, і з ёю ажаніўся.

І так Пётр і Ніна ўключыліся ў сялянскае працоўнае жыццё. Яго як бывалага чалавека аднавяскоўцы з партыйнай арганізацыі выбіраюць сакратаром, і гэтую ганаровую і адказную грамадскую функцыю выконвае ён на працягу чатырох гадоў. А пасля становіцца ён працаўніком рад нарадовых, спачатку працуе ён намеснікам старшыні ГРН у Пасынках, пасля старшынёй ГРН у Зубаве, пазней рахункаводам у ГРН Рыбалы, а затым сакратаром ГРН у Клейніках. Працуючы ў радах нарадовых, ён не пераставаў быць гаспадаром, таму што менавіта прафесія гаспадара, земляроба была яму найбольш па душы, найбольш блізкая. Больш таго, у той час ён заняўся будовай сабе дома на бацькоўскай сялібе. Чалавек ён майстраваты. Сам амаль усё парабіў — і зруб і сталярку. Ды апрача таго пабудаваў сабе гаспадарчыя будынкі. І ўжо ад 1965 года ён — сталы жыхар Кожына ў Бельскай гміне, прадукуе хлеб,

## ПАРТСАКРАТАР



мяса і іншыя сялянскія прадукты і сабе і дзяржаве.

Гаспадарыць ён на няпоўных пяці гектарах зямельных угоддзяў. Ды з яго нядрэнны гаспадар, клапатлівы бацька. Ваўранюкі маюць трое дарослых дзяцей, якія тут выгадаваліся і адсюль, як кажуць, пайшлі ў людзі. Дачка Марыся закончыла тэхнікум і працуе ў гандлі, адзін сын з'яўляецца апаратарам цяжкіх машын, а другі сын у Чэхаславакіі на работах, якія выконваюцца па дзяржаўнаму дагавору.

І так засталіся бацькі адны ў сваёй вялікай хаце. Добра, што служыць ім здароўе і яны яшчэ паўнацэнныя гаспадары. Трымаюць тры дойныя каровы, тры ялоўкі, некалькі штук свіней і авечак ды шмат гусей і курэй. Прыемна ў Ваўранюкоў пабыць на панадворку, на іх сялібе. Тут, як у лесе, расце многа высокіх сосен, пад якімі ляжаць прыгожыя шышкі. І спаткалі мы Пятра Ваўранюка на яго прасторным панадворку, задаволенага з жыцця, з таго, што дзецям яго жывецца цяпер куды лепш, чым яму ў такім узросце. Ён улюбёны ў жыццё, добра яму і на гаспадарцы і ў грамадскай працы. З'яўляецца сакратаром партыйнай арганізацыі ў сваёй вёсцы. Сакратарыць ён бесперапынна ад 1972 года і нядаўна, на апошнім партыйным сходзе ПОП далей даверылі яму функцыю партсакратара. За грамадскую дзейнасць і за абарону са зброяй у руках маладой народнай улады Пётр Ваўранюк узнагароджаны Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**

 

## ЛІЛІ ІВАНОВА



ФОТА ПА ЗАКАЗУ

Заказваў Юрка Трачук

## КАНСУЛЬТАЦЫЯ ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: У рашэнні аб разводзе суд прызнаў мужа выключна вінаватым раскладу супольнага жыцця і прысудзіў ад яго для жонкі аліменты. Яна атрымоўвае аліменты больш чым чатыры гады. Ёй цяпер 63 гады, і яна іншых сродкаў для жыцця не мае. Былы муж гаворыць, што калі пройдзе пяць год, не будзе мець абавязку плаціць аліменты, бо такое права. Ён ажаніўся другі раз і атрымоўвае высокую зарплату. Ці ёсць такі закон, паводле якога разведзеная жонка можа толькі пяць год атрымоўваць аліменты ад былога мужа?

АДКАЗ: Разведзеная жонка, якая не прызнана судом выключна вінаватай раскладу супольнага жыцця, калі знаходзіцца ў недастатку, можа патрабаваць ад разведзенага мужа сродкаў утрымання ў аб'ёме, які адпавядае апраўданым яе патрэбам, ды заработным і маёмасным магчымасцям абавязанага. Гэты абавязак выгас бы толькі ў выпадку, калі б жонка выйшла другі раз замуж. Калі пройдзе пяць год, аліментацыйны абавязак выгасае ў выпадках, калі б разведзены муж не быў прызнаны вінаватым раскладу супольнага жыцця. Напрыклад, прычынай разводу была псіхічная хвароба мужа. Паколькі ў нашым прыкладзе разведзены муж прызнаны выключна вінаватым раскладу супольнага жыцця, мае ён абавязак плаціць аліменты разведзенай жонцы цэлы час, калі яна знаходзіцца ў недастатку.

## ВЕР-НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Сніцца мне, што купіла я сабе прыгожы матэрыял на сукенку. І зайшла з ім да сваячкі. Вымаю, каб паказаць ёй, а там ужо замест аднаго куска — два невялікія. І адзін у ружовую, а другі ў сінюю клетку. Ды яшчэ я ў сумцы прынесла дзве шклянкі гарэлкі. Але мне нейк сумна стала па гэтым матэрыяле і я ўзяла і выліла на падлогу тую гарэлку. Сваячка кажа, што будзе рабіць сабе камізэльку, бо холадна. А я скінула сваю камізэльку і аддала ёй.

Марыся

**Марыся!** Ты добры чалавек, і добрае ў цябе сэрца, ды праз сваіх дурных прыяцеляў сапсуеш сабе, бадай, нейкае цікавае падарожжа. Сустрэне цябе нейкая вялікая абраза з боку людзей, ад якіх ты ніколі гэтага б не спадзявалася.

**Астрон**

## ЦІКАВІНКА

Адкуль пачынаў свае паходы Аляксандр Македонскі? Дзе ён вырас? Да гэтага часу не было дакладнага адказу на гэтыя пытанні, таму што было невядома, дзе знаходзілася сталіца старажытнай Македоніі.

Нядаўна грэчаскі прафесар Маноліс Андронікас заявіў, што цяпер можна ўстанавіць месцазнаходжанне сталіцы. Ён грунтуецца на выніках нядаўніх раскопак паблізу горада Вергіны. Там знойдзены тры грабніцы, і ёсць істотныя падставы лічыць, што ў адной з іх пахаваны бацька Аляксандра Македонскага Піліп. Ансамбль трох грабніц па ўсіх прыкметах нагадвае каралеўскі магільны склеп.



ФОТА-РЭТРА

*Гарадок, 1900 год. Сям'я. З хатняга архіва Сцяпана Лінчука.*

## ДЗВЕ МОДЫ

Ёсць дзве моды. Адна эксклюзіўная, цудоўная, захапляючая, адным словам, на паказ агульных тэндэнцый, але не як узор для наследавання ў поўным сэнсе гэтага слова. Ёсць і другая мода — мода, якую мы выкарыстоўваем канкрэтна, кажучы прасцей — паказваючая вопратку, якую мы не толькі аглядаем, але і носім!

На нашым сённяшнім здымку вы бачыце якраз вопратку, якую мае ў сваім гардэробе амаль кожная жанчына. Усё, здавалася б, проста: і гольфікі, і спадніца ў клетку, і прамыя штаны, і берэцікі. Але як усё гэта апранута! Свіцер нібы той жа, а паясок у таліі змяняе яго выгляд. Гольфік як гольфік, але звярніце ўвагу на рукаў з буфкамі! Модныя туфлі робяць сілуэт жанчыны яшчэ больш цікавым і павабным.

**Сяброўка**



## СЕРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка, я чатыры гады замужам. Маю добрага мужа і дачушку, але жыць штораз горш, а часамі і дахаты вяртацца не хочацца. А гэта праз цёшчу, у вілле якой мы жывем. Яна баба нервовая, прыдзірлівая, усё жыцце ўсімі кіравала, цесць баяўся словам адазвацца. Усе ў хаце яе слухалі. А калі я туды прыйшла, яна і за мяне ўзялася. Усё мае быць так, як яна скажа. Я адразу не хацела ісці туды жыць. Казала мужу, каб кватэру падшукаць. Але цёшча абурылася, кажа, што сорам будзе ад суседзяў, калі яе адзіны сын будзе па людзях бадзяцца, калі ў яе хата вялікая і пакояў шмат. Сын быў згодны з маці, і мне нічога не асталася, як згадзіцца з імі. Цёшча яшчэ казала, што і дзіця, калі народзіцца, пільнаваць нам будзе, ды і параіць, і паможа нам, маладым і нявопытным. Так і сталі мы жыць у цёшчынай віле. Нават разам гатавалі. Гэта значыць мы плацілі ёй, а яна гатавала. Часамі мне што іншае хацелася зварыць, але цёшча не дапускала. А потым павысіла плату. І мы з мужам сказалі, што будзем варыць самі. Але цёшча не вытрывала, каб у гаршчок не заглянуць, ды сваіх заўваг не зрабіць, што не так вару, ды пасмяяцца з мужа, калі мне памагаў, што бабскімі працамі займаецца. Дзіцяці ўжо тры гады, можна ў прадшколле аддаць, але цёшча не дазваляе, бо там не даглянуць, бо дзіця крыўдзіць будуць. Ужо мне так абрыдла жыць пад дыктоўку цёшчы. Не маю з кім параіцца, бо я сірата, дык да цябе, Сэрцайка, звяртаюся.

Крыся з Беластока

**Крыся!** Адно я бачу выйсце — аддзяліцца ад цесцяў. Падшукаць нейкі куток, каб жыць і вырашаць справы самім. Дзіця аддай у прадшколле. Прадшколля не заступіць дзіцяці найлепшая бабуля. Яно там вучыцца жыць у калектыве, атрымоўвае веды, адпаведныя яго ўзросту. Так што пагаворы з мужам і астаўце цёшчыны пакоі, у якіх, як сама кажаш, жыццё невыносным стала.

**Сэрцайка**

## ТАЙНЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ




Праз тры гады па ўсёй Аўстрыі загаварылі пра хлопчыка, які выпадкова знайшоў на беразе возера Топліц пачак банкнотаў. Гэта былі выйшаўшыя з ужытку долары, якія, паводле яго слоў, плавалі на паверхні вады.

Аб гэтай гісторыі стала вядома камандаванню амерыканскіх войск, размешчаных у Заходняй Германіі. І вось ужо на берагах возера з'явіліся амерыканскія вадалазы. Хутка, без лішніх размоў яны ўстанавілі неабходнае абсталяванне, помпы, кампрэсары.

Тых, хто першым апусціўся ў ваду, чакаў непрыемны сюрпрыз. Справа ў тым, што Топліц — адзінае ў Еўропе возера, дзе паміж паверхняй вады і дном на глыбіні каля 40 метраў пастаянна плаваюць тысячы ствалоў дрэў, якія зваліліся з крутых схілаў гор ці былі прынесены ў возера вясеннімі патокамі. Гэта своеасаблівае другое дно тоіць у сабе вялікую небяспеку для кожнага, хто паспрабаваў бы абаперціся на яго. Менавіта яно і стала прычынай гібелі — так, ва ўсякім разе, сцвярджалася ў афіцыйным паведамленні — амерыканскага вадалаза старшага лейтэнанта В.К.Г. (амерыканцы, напэўна, так ніколі і не назавуць поўнасцю яго імя). Яго труп знайшлі толькі пасля дваццаці гадзін старанных пошукаў. Аднак праз шмат гадоў акалічнасці смерці вадалаза, які аказаўся, дарэчы, супрацоўнікам разведкі, сталі ўсё ж вядомы: паветраны шланг, які ўдалося знайсці, аказаўся перарэзаным.

Пра смерць В.К.Г. пісалі многія газеты. Сярод іх і дзюсельдорфская „Міттаг“. „Пры апусканні ў ваду старшага лейтэнанта амерыканскіх ВМС, — пісала газета, — захоўваліся ўсе патрабаванні інструкцыі. Поўнасцю выключаецца магчымасць дыверсіі з боку дапаможнага персаналу, поўнасцю абвергнута і гіпотэза таго, што паветраны шланг быў быццам бы няспраўны...“. Далей гэтага „Міттаг“ не пайшла. Але ўжо ў тыя дні той-сёй адкрыта гаварыў аб забойстве, зробленым групай неанацыстаў, якія нечакана напалі на вадалаза. Зразумела, што акцыя была праведзена з мэтай перашкодзіць амерыканцам высветліць, што ж хаваецца пад „дном“ возера, утвораным з бярвенняў.

Адна з газет адзначала, што яшчэ ў канцы вайны ў рэках верхняй Аўстрыі — Энс і Траўн — вылоўлівалі пачкі фальшывых фунтаў стэрлінгаў. Улічваючы, што абедзве ракі бяруць свой пачатак непадалёк ад Бад-Аўсзэе, многія прыходзілі да вываду, што грошы рабілі ў раёне „трохвугольніка“ Хальштатэр-Зэе — Бад-Ішль — Бад-Аўсзэе.

У гарах гэтага раёна ў 1945 годзе былі выяўлены дзесяткі пячор, абсталяваных пад склады. У даўно закінутых шахтах былі знойдзены скрыні з маёмасцю, нарабаванай акупантамі ў самых розных гарадах Еўропы.

Вышэйпамянёная дзюсельдорфская „Міттаг“ пісала пазней, што ў раёне возера Топліц пастаянна хадзілі нейкія таямнічага выгляду людзі, па начах можна было бачыць промні электрычных ліхтарыкаў.

Галюцынацыі?

Зусім не. Справа ў тым, што ў 1963 годзе знікне яшчэ адзін вадалаз, які адважыўся апусціцца ў воды возера. На гэты раз — немец, нехта Альфрэд Эгнер. У ноч з пятага на шостае кастрычніка таго ж года ў раёне, аб якім мы гаварылі, бачылі Ота Скарцэні, афіцэра СС, якому „фюрэр“ даручаў самыя далікатныя справы.

Цяпер Скарцэні мёртвы. Шмат гадоў мінула і пасля смерці Вальтэра Шэленберга (аднаго з бліжэйшых падручных Гімлера, начальніка IV аддзела РСХА), які, безумоўна, ведаў многа пра тайны возера Топліц.

### СКЛАДЫ Ў ПЯЧОРАХ

Ёсць, аднак, адзін факт, аб якім стала вядома толькі праз шмат гадоў: у самім возеры і ў горных пячорах нацысты схавалі дзесяткі, а магчыма, і сотні скрынь. У пачатку мая 1945 года ў гэты раён, здолеўшы адарвацца ад наступаўшых амерыканскіх часцей, прыбыла калона нямецкіх грузавікоў. З іх паспешліва згрузілі і схавалі ў тайніках скрынкі з залатымі зліткамі і каштоўнасцямі, са зброяй і дакументамі аддзелаў Гімлера, з чарцяжамі ракет, што запускаюцца з падводных лодак.



 

Імпартгумар

# СЛОВА

Жонка дагадзіла смачным абедам.

— Дзякуй, рыбачка! — пяшчотна сказаў муж.

— А якая?

Ён цёр лоб, успамінаючы марскія і рачныя рыбы. „Якая ж самая прыгожая?" — занепакоіўся і на момант уявіў беражок Гайны, здаецца, убачыў у ціхай затоцы трапяткую срэбную чародку.

— Плотачка! — вырвалася нечакана.

— Во яшчэ! — кінула яна і з твару зняцела ўсмешка.

— Драбніца нейкая ў маленькай рачулцы.

Ён крыху збянтэжыўся, але спахапіўся і вымавіў нараспеў, з пачуццём:

— Чырванапёрачка!

— Ці ж я старамодная дама з пер'ямі ў капялюшыку? — надзьмулася жонка.

Ён пацісну плячыма, нахмурыўся, прабубнеў:

— Траска, сардынела, скумбрыя...

— Сам ты мянтуз балотны! — ускіпела жонка.

Памаўчалі, узбуджаныя, пачырванелі. Яму чагосьці ўспомніліся Чэхаўскія „Мянтуз", „Конскае прозвішча", паразважаў сам з сабой: „Не проста, аднак, злавіць і тую рыбіну, нялёгка таксама прыходзіць жаданае слова".

А яна ўздыхае, як пакрыўджаная. Ён падумаў уголас:

— Салака, мойва, камбала...

— Што? — ускрыкнула, як уджаленая, жонка і ажно закалацілася: — Я аднавокая камбала? Сам ты шчупак здзервянелы, вугор капчоны, рак вараны.

Ён шумна ўздыхнуў, хапіўся за сэрца і грымнуў:

— Акула ты!

Змоўк, але бязгучна разяўляў рот, быццам рыбіна, якую выкінулі на пясок.

Жанчына ўсхліпнула, замітусілася:

— Я, я? Ты, ты... хек смажаны!

Падбегла да трумо, нервова папраўіла модную прычосачку, чамусьці тузанула адну, другую бліскучую завушніцу і войкнула ад болю.

Ён спадылба назіраў за жонкай, прамармытаў:

— А ёй да твару залатыя штучкі, — і раптам заплюскаў у далоні: —Зўрыка! — Ты мая залатая рыбка.

Жонка палагоднела, з'явілася мядовая ўсмешка. І ўсё ж напракнула яго, што не адразу ўспомніў запаветнае слова. Але ўжо назвала серабрыстым хекам.

Яму палягчэла.

**Рыгор Бохан**



— *Вася, катлетка гатовая? Прыём.*




Made in Zadrypanka

### НУ І СЫНОЧАК!

Задрыпанка дакарае мужа:

— Чаму, калі мая маці прыязджае да нас, ты нікуды яе не павядзеш?

— Няма патрэбы, — адказвае муж, — усё роўна кожны раз яна знаходзіць дарогу назад.

### ГРАБЕЖ У КРЭДЫТ

— Давай грошы і не думай шумець! — сказаў грабежнік.

— Дзейнічайце! — адказаў Кастусь. — Я нічога не маю супраць таго, каб быць абрабаваным, але вам давядзецца рабаваць у крэдыт: у мяне няма ні граша.




# САРОКА

Сарока
Звоніць да Галубкі.
Пытаецца:
— Ці ты ля трубкі?
Эх ты...
Сядзіш сабе, дурнуля,
А на двары —
Такі дзянёк.
І твой хароны
Мужанёк
Гуляе у гаі
З Зязюляй.
Сядзіць абое
На суку,
І вярціхвостка Галубку
Усё пяе:
„Ку-ку, ку-ку"...
— Ды не мані!
І не мялі ты шмат.
Мой Галубок
Са мной
Гадуе галубянят.
Ён не бадзяецца
Нідзе.
Са мной на змену
Ён сядзіць ў гняздзе.
— Твой муханёк
У гняздзе?
Ха-ха-ха-ха!
Нідзе не чула
Я такога.
У гняздзе мужчына,
Хоць памры.
Вось будзе смеху
У бары!
Я ўсіх сябровак
Аблячу,
Пра гэта ўсім
Рассакачу.
Ляціць сарока-абібока:
— Ці чулі навіну?
Галубка Галуба
Прымацавала
Да гнязда.
Сама ж зняцела
Да любоўніка Дразда.

* ❊ *

Сароцы мала веры.
Ды падчас
Яна крадзе спакой
У нас.
У байкі гэтай
Усе словы
Навеяны мне плёткамі
Адной сарокі...
Саракагадовай...

**Аляксандр Калган**



**Ён задзірае нос, бо назіраў за высокімі палётамі.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Ён: — Выбачайце, а не былі мы з вамі заручаны ў мінулым годзе?
Яна: — Зусім магчыма, калі вы адпачывалі ў ліпені ў Ніцы.

❊

Шатландзец прыйшоў з сынам у тэатр на галёрку. У антракце сын перагнуўся цераз поручні і пачаў разглядваць публіку ўнізе.

— Асцярожна, сынок, — сказаў шатландзец, — глядзі не ўпадзі. Не забудзь, што ў партэры білет два разы даражэйшы, чым тут.

❊

П'яны наведвальнік увальваецца ў фотаатэлье:

— К-к-калі ласка... зрабіце мне груп-уп-упавы партрэт...

— З прыемнасцю, сіньёр. Распалажыцеся, калі ласка, паўкругам.




— *Не ведаеце, дзе тут найбліжэйшы тэлефон?*

### ШЭФ

Шэф робіць заўвагі маладому працаўніку:

— Калі не зайду ў ваш пакой, вы заўсёды нічога не робіце. Чаму гэта?

— А таму, што вельмі ціха заходзіце.

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

# О, МАТУЛЯ МАЯ

**Словы А. Малышкі**
**Пераклад М. Аўрамчыка**
**Музыка П. Майбарады**

О, матуля мая, ты начэй не даспала
І вадзіла мяне у палі край сяла,
І далёка ў дарогу ты мяне на зары выпраўляла,
І ручнік вышываны на шчасце дала.
І далёка ў дарогу ты мяне на зары выпраўляла,
І ручнік вышываны на шчасце, на долю дала.

Хай квітнее на ім луг і росная сцежка,
І над рэчкаю гай, салавей дзе пяе,
І твая веснавая мацярынская шчырая ўсмешка,
І журботныя добрыя вочы твае.
І твая веснавая мацярынская шчырая ўсмешка,
І журботныя добрыя, сінія вочы твае.

Я вазьму твой ручнік, пасцялю, быццам долю,
Ў ціхім шолаху траў, ў шчабятанні дуброў,
І на тым ручніку ўсё ажыве, што знаёма да болю,
І маленства й разлука й да сына любоў.
І на тым ручніку ўсё ажыве, што знаёма да болю,
І маленства й разлука й да роднага сына любоў.

З „Весніка Задрыпоніі"

### У СВЕЦЕ НАВУКІ

Цэлы год эксперыментаваў малодшы навуковы супрацоўнік Ф. Дуевіч, пераліваючы з пустога ў парожняе. І прыйшоў да вываду, што зарплата ад гэтага не мяняецца.

### ПЫТАННЕ ДАЦЭНТА СКОКА

Ад чаго больш карысці — ад актыўнага адпачынку ці пасіўнай дзейнасці?

*Вытворчая гімнастыка.*



### СІЛА ЗВЫЧКІ

Жонка, гледзячы ў акно, кажа:

— Дождж ідзе.

Муж, не адрываючыся ад газеты:

— Скажы, што мяне няма дома.

### АД СЛАБАСЦІ

— Дзядуля, чаму гэта ў вас такія маленькія вусы?

— Слабы ўжо, дык няма сілы большыя насіць.

# Курʼёзы

Сярод людзей назіраюцца выпадкі, калі той ці іншы індывід выкідвае нечаканыя штукі ад празмерных багаццяў, якія няма куды падзець. Сыты багацей можа патрабаваць, каб яго абслугоўвала ў быту асоба жаночага полу, так званая спадарожніца-гасцеса. За добрыя грошы яму падбяруць гасцесу, якую ён толькі пажадае — па колеру валасоў, росту, фізічнаму складу, характару і ўзросту.

Але гэта ардынарная паслуга каштуе па-бізнесменску не так ужо і дорага — каля 100 долараў за вечар. А вось паглядзець сеанс праглытання агню — гэта абыходзіцца куды даражэй. У ФРГ найвышэйшая такса — плаціць не менш 500 марак.

Немалымі грашамі раскідваюцца дзеля сваіх забаў аматары звяроў, якія любяць зрабіць прагулку з дрэсіраваным львом, тыграм, ці нават падперазаца прыручанай жывой змяёю. Ці ж гэта не цікава — шпацыраваць на вачах усіх побач са зверам і на ўсіх наводзіць жудасць, выклікаць такую ж цікаўнасць?

У Англіі адна лонданская фірма паслуг адпачынку прапануе паглядзець своеасаблівую інсцэніроўку сямейнай сваркі з бойкай паміж разʼюшанымі мужам і жонкай. За тое прадстаўленне трэба заплаціць усяго толькі... 350 долараў. А калі вы трохі збяднелі і імкнецеся часткова сэканоміць свой капітал? Лепш сэканоміць на падатках, а як гэта зрабіць, вам зноў жа падкажа фірма, вылучыўшы для вас кансультанта. Ён і навучыць, як абысці існуючыя законы падаткаабкладання.




**Помні, што скуру трэба мыць, а не мяняць яе.**